


Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

3 жніўня 2018 года №31 (1214)

На Вілейшчыне загінула шмат рыбы. Міліцыя праводзіць праверку.

старонка 4

У Ракуцёўшчыне згадвалі Максіма Багдановіча.

старонка 17

Бронзавая шпілька для паненак і піўны куфаль для мужчын: што знайшлі археолагі ў Ільі.

старонка 20

# 101-гадовы «маёр Віхр» наведаў родны дом на Валожыншчыне

Аляксей Бацян з маленькім сваяком Аляксеем Шырокім з Маладзечна, названым у гонар легендарнага героя

старонка 2

Фота Марыі БЕРАСНЕВАЙ.



ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# 101-гадовы «маёр Віхр» наведаў родны дом на Валожыншчыне

ВАЛОЖЫН

**28 ліпеня малую радзіму, вёску Чартавічы, наведаў легендарны савецкі разведчык Аляксей Бацян.**

Ён зайшоў на магілы бацькоў, блізкіх сваякоў. Пасядзеў у доме, дзе нарадзіўся. Калі картэж машын заехаў у Чартавічы, людзі выходзілі са сваіх дамоў, каб проста паглядзець, некаторыя падыходзілі павітацца з Аляксеем Мікалаевічам і крышачку пагаварыць.

### «Маёр Віхр» з Валожыншчыны

**Ураджэнец Валожыншчыны Аляксей Бацян стаў прататыпам галоўнага героя кнігі Юльяна Сямёнава і аднайменнага фільма «Маёр Віхр», якія прысвечаныя праведзенай у 1945 годзе аперацыі па выратаванні ад знішчэння нацыстамі польскага горада Кракаў.**

Ён узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і Айчыннай вайны I ступені, высокімі польскімі і чэхаславацкімі ўзнагародамі. У постсавецкай Расіі яго ўшанавалі ордэнам Мужнасці, а ў 2007 годзе прэзідэнт Уладзімір Пуцін уручыў Аляксею Бацяну Залатую Зорку Героя Расіі.

Па адкрытых звестках і скупых, дазволеных расказах, ён выконваў спецыяльныя заданні ў Германіі і іншых краінах, працаваў у цэнтральным апараце Першага галоўнага ўпраўлення КДБ СССР, удзельнічаў у стварэнні групы спецыяльнага прызначэння КДБ СССР «Вымпел». А пасля адстаўкі ўжо як грамадзянскі спецыяліст яшчэ шэсць гадоў дапамагаў рыхтаваць «маладых спецыялістаў».



Калі картэж машын ехаў па Чартавічах, шматлікія вяскоўцы выходзілі са сваіх дамоў, каб прывітаць знакамітага земляка.

Фота Марыі БЕРАСНЕВАЙ

У 101 год Аляксей Мікалаевіч усіх, хто яго ведае, здзіўляе сваімі аптымізмам і бадзёрасцю. Ён выдатна гуляе ў шахматы, да дробязяў памятае падрабязнасці свайго, багатага на падзеі, жыцця.

Знакаміты разведчык яшчэ ганарыцца тым, што за ўвесь час яго «работы» варожая куля толькі адзін раз трохі зачапіла скронь.

### Пра Лёшу згадвалі ў сям'і

**У «Рэгіянальнай газеце» працуе адна з пляменніц легендарнага героя – стыль-рэдактар Марыя Бераснева. Яна вельмі ганарыцца сваім дзядзькам.**

Мы пагутарылі з Марыяй Браніславаўнай пра знакамітага сваяка.

– Пра свайго брата Лёшу мама часам згадвала, – кажа Марыя Браніславаўна. – Але ж ніхто не ведаў, дзе ён і чым займаецца. Першы раз пасля доўгай разлукі сваякі сустрэліся толькі ў 1972 годзе. Але мне яго пабачыць не ўдалося, здавала якраз экзамены ў школе. А ён быў праездам і затрымаўся ненадоўга. Ужо будучы дарослай у газеце «Совершенно секретно» я прачытала вялікі артыкул пра яго. Тады радня гэту газету перадавала з рук у рукі. І менавіта тады хоць трохі сталі ведаць, хто такі Аляксей і чым ён займаецца. У адным з часопісаў прачытала, што ён быў знаёмы са знакамітым Шцірліцам (Ісаевым).

### Як Аляксей Бацян стаў Леа Дворжакам

З родных Чартавічаў у 1939 годзе Аляксея Бацяна прызвалі ў армію. Падчас вайны трапіў у разведшколу. Пасля маладога разведчыка з парашута закінулі ў Чэхаславакію. Трэба было выдаць сябе за мясцовага жыхара, атрымаць адукацыю, зрабіць кар'еру, укараніцца ў мясцовыя спецслужбы, А паспрабуй гэта зрабі, калі нават мовы не ведаеш.

Аляксей дапамог нейкай чэхаславацкай бабулі пасекчы дровы. Тая прытуліла хлопца. Праз нейкі час разведчык вывучыў мову, скончыў мясцовы тэхнікум і для ўсіх стаў чэхам **Леа Дворжакам**. Тут пазнаёміўся з прыгожай чэшкай **Геленай Вінзейль** і ажаніўся з ёй. Укараніўся ў неабходныя спецслужбы і стаў пастаўляць інфармацыю ў Савецкі Саюз.

### А муж аказаўся Аляксеем

Пра тое, што яе муж не чэх Леа Дворжак, а савецкі разведчык Аляксей Бацян, – працягвае расказваць Марыя Бераснева, – Гелена даведалася праз некалькі год пасля вяселля, калі сям'я ўжо мела дачку. Ён паехаў у Савецкі Саюз і яго амаль год не было. Вядома, жонка ўрэшце забіла трывогу. Пасля прыехаў сябар Аляксея і забраў яе з дачкой і маці, але на пагранічным пункце жонцы сказалі, што за вамі прыехаў Бацян. Тая: «Я такога не ведаю». Якраз быў вечар, цёмна, цяжка каго распазнаць. Але тут чатырохгадовая дачка вырвалася ад пагранічнікаў і крычыць па-чэшску: «Тацінка! Тацінка!» – «Татачка! Татачка!». Пагранічнік іх і прапусціў.

Кар'ера разведчыка ледзь не скончылася ў 1953 годзе, калі ў Саюзе даведаліся, што ў Бацяна жонка-замежніца. Аляксея з органаў звольнілі. Тады па савецкіх дакументах Гелена стала Галінай Бацян. Праз паўтара года Аляксея зноў узялі на службу. Яны з сям'ёй вярнуліся ў Чэхаславакію, пасля былі камандзіроўкі ў іншыя краіны.

### У гонар героя-разведчыка хлопчыкаў у радні называюць Аляксеямі

**Знакамітага сваяка Марыя Бераснева пабачыла ў 1978 годзе. Яна тады якраз нарадзіла свайго першынца. Сына Марыя вырашыла назваць Аляксеем – у гонар дзядзькі-разведчыка. Дарэчы, у гонар разведчыка назвалі шмат хлопчыкаў у радні.**

– Пра сваякоў Аляксей Бацян заўсёды памятаў, – расказвае Марыя. – Нейк падарыў мне і яшчэ адной пляменніцы **Ніне Садоўскай** падарожжа на цеплаходзе па Волзе. Мы ўзялі сыноў і паехалі ў Маскву. Гэта быў 1991 год. Вярнуліся з падарожжа, а Масква ў барыкадах. Запрашаў і майго брата Антона на працу ў органы КДБ, але той адмовіўся.

### Падчас сустрэч з землякамі да Аляксея Бацяна не прабіцца

Сёлетні прыезд Аляксея Бацяна ў Беларусь прымеркавалі да 100-годдзя службы Камітэта дзяржбяспекі, маладзейшай за яго на адзін год.

У Мінску ў пятніцу, 27 ліпеня, зладзілі міжнародны турнір па шахматах на кубак Аляксея Бацяна. Ён зрабіў першы ход. І вельмі ўзрушаліся масквічы, што выйгралі беларусы. На сустрэчы з вітальным словам выступіў кіраўнік КДБ **Валеры Мікульчык**.

З прыездам на радзіму госця з Масквы віншавалі намеснік кіраўніка Валожынскага райвыканкама **Ігар Шакун**. А настаўніца з Сакаўшчынскай сярэдняй школы **Марына Чэрнік** уручыла разведчыку альбом з яго рэдкім фотаздымкам, які ўдалося знайсці іх краязнаўчаму музею.

Марыя Бераснева прызналася, што падчас такіх сустрэч з землякамі да дзядзькі заўсёды цяжка падысці. Вельмі шмат ахвотных паціснуць руку і пагаварыць са знакамітым разведчыкам.

– А яго сваяк Міхаіл Бацян на сустрэчы гаварыў, што гэта цяпер Аляксей такі знакаміты, а раней мы з ім сена касілі і ў карты гулялі, – дадала Марыя.

**Аляксей Бацян пажадаў сваім аднавяскоўцам моцнага здароўя, дабрабыту, паспадзяваўся на далейшыя сустрэчы і падкрэсліў, што заўсёды памятае што ён – беларус.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Павялічыліся пенсіі, дапамогі і іншыя сацыяльныя выплаты

**Ад 1 жніўня ў Беларусі павысіліся пенсіі, а таксама павялічыліся памеры розных відаў дапамог і сацыяльных выплат і даплат – па прэзідэнцкім указе, у сувязі з ростам бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ) і сярэднямесячнай зарплаты, паведамляе БЕЛТА.**



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Ад 1 жніўня павысіліся пенсіі, павялічыліся памеры розных відаў дапамог і сацыяльных выплат і даплат.

### Новыя памеры БПМ і МСБ

**Ад 1 жніўня да 31 кастрычніка ў разліку на месяц бюджэт пражытачнага мінімуму ўстаноўлены ў памеры 213,67 руб. Для працаздольнага насельніцтва БПМ складае 236,98 руб., пенсіянераў – 162,58 руб., студэнтаў – 206,89 руб., дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 135,93 руб., дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – 188,95 руб., дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – 231,32 руб.**

Таксама ў Беларусі ўстаноўленыя новыя памеры мінімальных спажывецкіх бюджэтаў (МСБ) для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп у сярэднім на душу насельніцтва і на аднаго члена сям'і рознага складу. Яны будуць дзейнічаць да 31 кастрычніка 2018 года. Мінімальны спажывецкі бюджэт для працаздольнага насельніцтва складзе 445,83 руб., пенсіянераў – 349,22 руб., студэнтаў – 328,10 руб., дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 279,56 руб., дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – 367,48 руб., дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – 377,43 руб., на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек – 346,95 руб., маладой сям'і з трох чалавек – 377,31 руб.

### Пенсіі

У адпаведнасці з указам №278 «Аб павышэнні пенсій», ад 1 жніўня ўстанаўліваюцца наступныя памеры пенсій: сярэдні памер пенсіі – 364,2 руб. (рост на 33,02 руб.); сярэдні памер пенсіі па ўзросце – 374,33 руб. (на 33,8 руб.). Папярэдні пераразлік працоўных пенсій рабіўся ў маі 2018 года.

У сувязі з ростам БПМ будуць пераразлічаныя: мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі; надбаўкі да пенсій; павышэнні асобным катэгорыям пенсіянераў; даплаты атрымальнікам ва ўзросце 75 гадоў і старэй, якія абслугоўваюцца ў органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне.

**Мінімальны памер пенсіі па ўзросце ў жніўні-кастрычніку складзе 207,43 руб. (з улікам даплаты).**

Сацыяльныя пенсіі розным катэгорыям людзей з інваліднасцю вар'іруюцца ад 160,25 да 235,04 руб. А атрымальнікам сацыяльных пенсій сярод мужчын ва ўзросце старэй за 65 гадоў, жанчын – старэй за 60 будуць выплачваць 106,84 руб.

Надбаўкі да пенсій вырастуць да 26,71 і 53,42 руб. (для розных катэгорый), даплаты непрацуючым пенсіянерам, старэйшым за 75 гадоў, складуць 40,07 руб., старэйшым за 80 гадоў – 53,42 руб. Павышэнні пенсій розным катэгорыям складуць ад 21,37 (донарам, узнагароджаным нагрудным знакам «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь», знакам пашаны «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь», знакамі «Ганаровы донар СССР», «Ганаровы донар Таварыства Чырвонага Крыжа БССР», па дасягненні агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту) да 267,1 руб. (Героям Беларусі, Героям Савецкага Саюза, Героям Сацыялістычнай Працы, асобам, узнагароджаным ордэнамі Айчыны трох ступеняў, ордэнамі Славы трох ступеняў, ордэнамі Працоўнай Славы трох ступеняў).

### Дзіцячыя дапамогі

У сувязі з павелічэннем сярэднямесячнай зарплаты вырастуць дапамогі, якія выплачваюць бацькам, якія знаходзяцца ў адпачынку па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў. На першае дзіця памер дапамогі складзе 329,04 руб. (рост на 17,01 руб.); на другое і наступных дзяцей – 376,04 руб. (на 19,44 руб.); на дзіця-інваліда – 423,05 руб. (на 21,87 руб.). Новы памер дапамог будзе дзейнічаць да 1 лютага 2019 года.

Рост БПМ у сярэднім на душу насельніцтва цягне павелічэнне памеру дапамог на дзяцей: пры нараджэнні дзіцяці (першага дзіцяці – 10 БПМ, другога і наступных дзяцей – 14 БПМ); па доглядзе дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 18 гадоў (1 БПМ); на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 18 гадоў у перыяд выхавання дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў (0,5 БПМ), на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў (0,5 БПМ, 0,7 БПМ), на дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека (0,7 БПМ). Акрамя таго, большым стане памер дапамогі па доглядзе інваліда I групы або за асобай, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту, і іншыя сацыяльныя выплаты, якія вылічваюцца з памеру БПМ.

Акрамя таго, змяненне памеру БПМ паўплывала на разлік сродкаў, якія падлягаюць пералічэнню па-за чаргой плацяжоў на пагашэнне запазычанасці па заработнай плаце. Цяпер наймальнікі павінны браніраваць у разліку на аднаго работніка 355,47 руб.

**Паводле БелТА.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.07 | 2.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1.9901 | |
| Еўра | 2.3268 | |
| Злоты, 10 | 5.4173 | |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1580 | |
| Грыўня, 100 | 7.4732 | |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **25.07** | **1.08** |
| Еўра | 2.3100/2.3300 | |
| Долар ЗША | 1.9780/1.9930 | |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 25.07 | 1.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,60 | **3,60** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,13 | **6,95** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,25 | **3,40** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **13,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 0,90 | **0,90** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 1,87 | **1,90** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,65 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 0,80 | **1,00** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,75 | **1,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,95 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | – | **2,00** |
| Морква, 1 кг | 1,60 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 2,00 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 1,70 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 2,99 | **3,60** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,00 | **1,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,85 | **0,85** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,70** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Персікі, 1 кг | 3,90 | **3,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Накіравалі ў суд справу аб атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры

СМАРГОНЬ

Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь накіравала ў Вярхоўны суд крымінальную справу па абвінавачанні С. – дырэктара акцыянернага таварыства – па артыкуле «Атрыманне хабару».

Абвінавачанаму прад'явілі, што ён, падчас выканання арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых функцый у перыяд ад 12 лютага 2014 года да 15 сакавіка 2017 на тэрыторыі Мінска і Смаргоні атрымліваў ад прадстаўнікоў арганізацый-контрагентаў хабар.

За гэты час С. у якасці хабару прыняў 105 795 еўра, 35 тысяч долараў ЗША і 1 340 беларускіх рублёў.

Пасля праверкі пракурор прыйшоў да высновы аб абгрунтаванасці абвінавачання, наяўнасці дастатковых доказаў віны С., поўным і аб'ектыўным даследаванні абставінаў злачынстваў. Пагадзіўся з крымінальна-прававой кваліфікацыяй яго дзеянняў.

Адначасова Генеральная пракуратура заявіла іск аб спагнанні з абвінавачанага на карысць рэспубліканскага бюджэту 253 673 рублі.

Крымінальная справа знаходзілася ў галоўным упраўленні па расследаванні злачынстваў у сферы арганізаванай злачыннасці і карупцыі Следчага камітэта.

Ужытае раней да абвінавачанага заключэнне пад варту пракурор пакінуў без зменаў.

**Паводле сайта Генеральнай пракуратуры.**

## Ад агню на Мядзельшчыне выратавалі амаль дзесяць тон сена

МЯДЗЕЛ

30 ліпеня пасля 14:00 мядзельскім выратавальнікам паведамілі, што гарыць сена ў вёсцы Лотва.

Калі спецыялісты прыехалі на месца, сена пад навесам гарэла адкрытым полымем.

Усяго пад навесам было каля 17 тон сена. У выніку полымя пашкодзіла каля 20 рулонаў (каля сямі тон). Каля дзесяці тон сена спецыялісты выратавалі.

Прычыну ўстанаўліваюць. Магчыма пажар здарыўся з-за таго, што сена было няправільна закладзенае пад навес. У выніку магло адбыцца самаўзгаранне.

**Паводле сайта МНС.**

## У Мядзельскім раёне ратавальнікі дасталі кіроўцу з аўтамабіля

МЯДЗЕЛ

ДТЗ адбылося каля вёскі Гарадзішча 29 ліпеня.

Паведамленне аб гэтым паступіла ў 13:34.

Кіроўца легкавога аўтамабіля «Фольксваген-Пола» сутыкнуўся з дрэвам. Ён не справіўся з кіраваннем.

Работнікі МНС дасталі мужчыну 1961 года нараджэння з аўтамабіля. Мужчына з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізаваны ў Мядзельскую ЦРБ.

**Паводле сайта МНС.**

# На Вілейшчыне загінула шмат рыбы

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Міліцыя Вілейшчыны праводзіць праверку масавага мору рыбы, які здарыўся на канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы каля вёскі Калодчына Ільянскага сельсавета.**




Канал ля вёскі Калодчына.

Па словах **Валерыя Кляноўскага**, начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, пра тое, што шмат мёртвай рыбы плыве па канале, паведамілі па тэлефоне вяскоўцы з Калодчына.

На месца выехалі спецыялісты інспекцыі, а таксама вілейскія следчыя. Пра здарэнне паведамілі ў Вілейскі райвыканкам.

Незалежныя лабараторыі ўзялі пробы вады і загінулай рыбы на экспертызу для таго, каб устанавіць дакладную прычыну такога здарэння.

Работнікі Вілейскага водаканала спынілі прапампоўванне вады і вылавілі загінулую рыбу.

Па словах Валерыя Кляноўскага, магчымай прычынай мору мог стаць недахоп кіслароду ў вадзе.

Як распавёў «Рэгіянальнай газеце» **Віталь Салавей**, намеснік начальніка Вілейскага РАУС, экспертызу яшчэ не закончылі. Спецыялісты вывучаюць ваду і адабраных рыб.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу ў пажары на Смаргоншчыне загінуў мужчына

СМАРГОНЬ

Трагедыя здарылася 26 ліпеня каля 12 гадзін ночы ў вёсцы Варакумшчызна.

У жылым доме агонь пашкодзіў дах, столь, сцены і маёмасць.

Пасля паловы першай выратавальнікі знайшлі ў прыхожай абгарэлы труп гаспадара дома.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, трагедыя адбылася з-за таго, што гаспадар дома неасцярожна абыходзіўся з агнём.

**Паводле сайта МНС.**

## На Вілейшчыне насмерць разбіўся матацыкліст-бяспраўнік

ВІЛЕЙКА

Гэта адбылося 29 ліпеня каля вёскі Мацавічы.

Каля 16:00 42-гадовы жыхар вёскі Рускае Сяло ехаў на матацыкле з каляскай без правоў.

Мужчына з'ехаў у кювет, стукнуўся ў дрэва і загінуў.

Як распавялі ў Вілейскім следчым камітэце, спецыялісты будуць праводзіць экспертызу. Пасля яе з'явяцца падрабязнасці здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На пярэднім сядзенні ехалі ўчацвярых

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу па факце парушэння правілаў дарожнага руху і кіравання машынай у нецвярозым стане, што прывяло да цяжкага цялеснага пашкоджання.

21 ліпеня каля 4 гадзін 30 хвілін на тэхналагічным участку дарогі філіяла №7 «Смаргоньсілікатабетон» ААТ «Красносельскбудматэрыялы» ў лясным масіве паблізу вёскі Міхневічы Смаргонскага раёна 18-гадовы кіроўца не справіўся з кіраваннем Volkswagen T5 Multivan і наехаў на прыдарожнае дрэва. У выніку здарэння пасажыры –18-гадовы хлопец і 19-гадовая дзяўчына атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці і былі шпіталізаваныя.

Следчыя ўстанавілі, што падчас наезду ў аўтамабілі знаходзілася шасцёра маладых людзей – усе жыхары Маладзечна. Пасля распіцця спіртных напояў ля вадаёма яны забаўляліся, катаючыся на аўтамабілі. Пры гэтым на пярэдніх сядзеннях знаходзілася чацвёра чалавек, у тым ліку пацярпелыя. Прычым адзін з хлопцаў ехаў, высунуўшыся з аконнага праёму дзвярэй.

Згодна з папярэднім заключэннем спецыялістаў упраўлення Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз па Гродзенскай вобласці, атрыманыя маладым чалавекам цялесныя пашкоджанні адносяцца да катэгорыі цяжкіх.

Для высвятлення абставін здарэння следчыя агледзелі месца здарэння, дапытваюць відавочцаў. Плануецца правядзенне аўтатэхнічнай і судова-медыцынскіх экспертыз, іншых следчых і працэсуальных дзеянняў. Збіраюцца матэрыялы, якія характарызуюць асобы падазраванага і ўсіх пасажыраў. Пры агляде кольскасць алкаголю ў крыві кіроўцы склала амаль 0,9 праміле.

З санкцыі пракурора да яго ўжытая мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

**Паводле сайта Следчага камітэта.**

## Кіроўца наехаў на апору лініі электраперадач

МАЛАДЗЕЧНА

Мужчына быў у стане алкагольнага ап'янення.

Здарэнне адбылося 28 ліпеня каля 16:00 у вёсцы Гарадзілава.

66-гадовы мужчына на Audi 80 пры здзяйсненні левага павароту не справіўся з кіраваннем, з'ехаў на абочыну, дзе наехаў на апору ЛЭП.

У выніку ДТЗ кіроўца атрымаў цялесныя пашкоджанні.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Маладзечанскія выратавальнікі правялі вучэнні

МАЛАДЗЕЧНА

27 ліпеня ў Маладзечанскім раёне правялі камандна-штабныя вучэнні ў дзяржаўнай сістэме па папярэджанні і ліквідацыі надзвычайных сітуацый і грамадзянскай абароне, распавяла «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сапат**.

Спецыялісты праверылі план абароны насельніцтва і тэрыторый раёна ад надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару, планы папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый на суб'ектах гаспадарання, наяўнасць і якасць распрацоўкі асноўных неабходных дакументаў.

Да вучэнняў далучыліся камісія па надзвычайных сітуацыях пры Маладзечанскім райвыканкаме, кіруючы склад райвыканкама, раённых службаў, патэнцыйна небяспечных аб'ектаў і арганізацый раёна; штатныя аварыйна-выратавальныя падраздзяленні арганізацый, фарміраванні грамадзянскай абароны, жыхары Маладзечаншчыны.

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Паехаў на рынак «Лебядзіны» і знік: міліцыя шукае жыхара Радашкавічаў

МАЛАДЗЕЧНА



Маладзечанскі РАУС шукае **Віталя Віктаравіча Віленскага**, 1961 года нараджэння, які знік 20 ліпеня.

Мужчына зарэгістраваны па адрасе: Маладзечанскі раён, Радашкавічы, вуліца Пралетарская, 8-36.

20 ліпеня каля васьмі раніцы ён паехаў на рынак «Лебядзіны» і знік.

**Прыкметы:** на выгляд 55-57 гадоў, рост каля 172 сантыметраў, худы, авальны смуглявы твар, прамыя бровы, сярэдні прамы нос, выступае ніжняя губа. Прамыя чорныя валасы. Ёсць барада, вусы, бакенбарды. Голас моцны, гаворка зразумелая. Памер абутку 38-39.

**Асобыя прыкметы:** на левай руцэ шрам ад выдаленай пухліны.

На момант знікнення быў апрануты ў карычневую куртку з капюшонам, такога ж колеру штаны, бела-карычневую кашулю, чорныя чаравікі.

Грамадзян, якім нешта вядома, просяць звяртацца ў РАУС Маладзечна па тэлефонах: **8-0176-749683**, **8-0176-771656**, **8029-5464044** або **«102»**.

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага РАУС.**

# Рознакаляровае лета «Алімпіёніка»

СМАРГОНЬ

**Якога колеру лета? Рознага. Жоўтага, калі сонца адорвае зямлю залатымі праменьчыкамі. Блакітнага, калі ляжыш на беразе ракі ці возера і глядзіш у нябёсы. Зялёнага, калі ходзіш па лясных ці паркавых сцяжынках.**

У нашым школьным аздараўленчым лагеры «Алімпіёнік», які працуе на базе сярэдняй школы №7, другая змена таксама расфарбаваная ў розныя колеры.

86 хлопчыкаў і дзяўчынак акунаюцца ў калейдаскоп мерапрыемстваў, накіраваных на развіццё творчых здольнасцяў і самараскрыццё.

Патрыятычнаму выхаванню садзейнічаюць віктарыны «Мой край беларускі», «Мая маленькая радзіма», гутаркі, экскурсіі, паходы.

Літаратурная гасцёўня «Мая квітнеючая Беларусь», праведзеная на роднай мове ў межах акцыі «Дзень беларускай мовы», спрыяла выхаванню лепшых рыс грамадзяніна. Дзеці слухалі легенды і паданні пра кветкі роднай Беларусі, чыталі вершы беларускіх аўтараў пра васількі, рамонкі, ружы.

Шмат пазітыўных эмоцый атрымалі вучні падчас круізу-фестывалю гульняў розных народаў «Вакол свету за адзін дзень». Пазнаёміліся з гульнямі Кітая, Японіі, Кеніі, Украіны, Новай Гвінеі, Азербайджана.

Кожны дзень выхаванцы ўдзельнічаюць у спартыўных мерапрыемствах, якія ўмацоўваюць здароўе дзяцей.

Пазнавальныя гульні «Угадай-ка», «Свая гульня», «Што? Дзе? Калі?», «Хачу ўсё ведаць» дазваляюць праявіць эрудыцыю, знаходлівасць, кемлівасць і пашыраюць інтэлект дзіцяці.

Магчымасці для творчага развіцця даюць конкурсы малюнкаў «Чароўны букет», «Мой любімы казачны герой», «Спорт у маім жыцці».

Вось яно, рознакаляровае лета лагера «Алімпіёнік».

**Людміла ПАШКЕВІЧ, выхавальніца лагера «Алімпіёнік» сярэдняй школы №7 горада Смаргоні.**


Фота Людмілы ПАШКЕВІЧ.

Падчас віктарын і гутарак дзеці знаёміліся з беларускай культурай.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае




* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мазда 323F, 1,6, 1990 г.в., па запчастках. Вілейка. Т. (8029) 5527293.

• Опель-Астра G, 2003 г.в., універсал, 2,0 ТДІ, сіні, ТА, тэрмінова. Т. (8-029)6046728.*

• Форд-Мандэа, 1994 г.в., седан, прабег 275 000 км. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6356008.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Стартар, генаратар да рухавіка-406, КПП, лабавое шкло. Т. (8-0290 5769547.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*



### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом у аг. Ілья. Т. (8-029) 2793377*.

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Лазня, калодзеж. Т. (8-029) 8587518.*

• Зруб дома 6х12 метраў. Т.МТС (8-029) 7459993, МТС (8-029)5622825.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП «Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак «Ласі». Т. (8-033) 6407558.*

### КУПЛЮ

• Дом альбо дачу ў добрым стане, недалёка ад чыгункі. Т. (8-029) 1815904.

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў г.п. Чысць на доўгі тэрмін, з мэбляй. Балкон. Падвал. Т. (8-044) 7337811.*

• Пакой для дзяўчыны. Т. (8029) 2716012, у Вілейцы 38673.

## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бусы 1,5 т. ЧУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Фура 20 т. ЧУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Новік Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Ачыстка і рамонт калодзежаў. Капанне каналізацыі ўручную. ІП Лукша У.В. УНП 591813520. Т. (8-029) 2168221.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Вырабы з металу любой складанасці. Вароты, агароджы, лесвіцы, казыркі, поручні, коўка і інш. І.П. Стрыга Ю.С. УНП 692011543. Т. (8-029) 6868755.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Новік Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ.** Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ.** Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА.** ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка металу. ЧУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Міні-трактар самаробны, гідраўліка, навясное абсталяванне, прычэп. Т. (8029) 6887462.*

• Мотаблок «Магнум» М 107-Б2. У камплекце плуг, акучнік двайны, фрэзы, дадатковыя колы. Т. (8-029) 1459418.

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант» 1-камерны, тэлевізар «Гарызонт», усё ў выдатным стане. Т. (8029) 8630144.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцераль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Музінструмент**

• Фартэпіяна «Беларусь» за 50 руб. Т. (8-0290 1952958.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

• Карова дойная. Т. (8-029) 3529340, (8-029) 3226885, (8-029) 6570189.*

• Карова, 7 гадоў, малочная. 1900 руб. Дальныя апарат. Т. (8033) 6368364.

• Козы дойныя і маладняк. Нядорага. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Свініна жывой вагой. Т. (8029) 6597228.

**Іншае**

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Ціскі слясарныя, станочныя, б/у. Т. у Маладзечне 734729, (8029) 5647426.

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карову. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*



• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646*.

### ІНШАЕ

**• МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ІНВАЛІДАЎ ПРЫМЕ Ў ПАДАРУНАК НЯВЯЛІКІ ХАЛАДЗІЛЬНІК. Т. (8-029) 5753932.***

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• ТАА «ДАМІР-Тэхна» патрабуецца на пастаянную работу кваліфікаваны электразваршчык. УНП 192562294. Т. (8-044) 5463031.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Печніка. Т. Лайф (8-025) 6035930.*

«Рэгіянальная газета» шукае **рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас **reklama@rh.by.**



**ПАДАЧА АБ’ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады.**
Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04** (тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47.**
E-mail: **reklama@rh.by.**

# Хакей, радзіма, МНС

## Свята для маладзечанцаў зладзілі 28 ліпеня

МАЛАДЗЕЧНА

**Мерапрыемства прысвяцілі 165-годдзю пажарнай службы і Году малой радзімы. Яго правялі ў Лядовым палацы.**

Побач з палацам размясцілі пажарную аварыйна-выратавальную тэхніку. Кожны, хто хацеў, мог трапіць у машыну, пасядзець на месцы кіроўцы, адчуць сябе сапраўдным мнснікам. Дзеці з радасцю скарысталіся прапановай.

Жыхароў і гасцей горада запрасілі таксама на хакей. Гульні доўжыліся некалькі гадзін. Сярод гульцоў былі каманды Мінскага і Гродзенскага абласнога МНС.

Паралельна працавалі выставы. У перапынках паміж перыядамі хакея людзі глядзелі на экспазіцыі «Ратавальнікі вачыма дзяцей» і «Наша малая радзіма вачыма мастакоў свету».

У апошнюю ўвайшлі работы ўдзельнікаў адкрытага мастацага пленэра «Маладзечна-АРТ» з Літвы, Украіны, Арменіі, Расіі, Беларусі.

У абедзенны перапынак гасцей запрасілі на салдацкую кашу. Ячныя крупы з тушонкай і морквай падавалі хутка – доўга ў чарзе стаяць не даводзілася. Налівалі і салодкі чай.

Для дзяцей зладзілі гульнявыя пляцоўкі, на якіх былі розныя цікавосткі. Яны маглі надзець пажарныя пальчаткі і ў іх паспрабаваць выцягнуць цукерку з фанціка. Зрабіць гэта было няпроста.

На пляцоўках правералі веданне правілаў бяспекі. Да прыкладу, мадэлявалі сітуацыі, з якіх дзеці знаходзілі выйсце. «Што рабіць, калі нешта загарэлася?» «Ты заблукаў у лесе, як паступіш?» Калі адказы былі няправільныя, дзяцей вучылі сапраўдным ведам.

Маленькія госці «тэлефанавалі» ў службу МНС і апісвалі сітуацыю, быццам яна здарылася, называлі адрас.

З раскіданых па стале неабходных і лішніх лічбаў дзеці складалі нумары ратавальных службаў – 101 і 112. З пераблытаных літар складалі словы, звязаныя з МНС. Былі і мазаікі на гэту тэму.

За правільныя адказы і выкананне заданняў дзеці атрымоўвалі падарункі – якасныя размалёўкі, наклейкі, закладкі, буклеты.

Таксама на свяце кожны мог апрануць форму ратавальніка.

**Таццяна КАСЬЯН.**


Фота Таццяны КАСЬЯН.

На свяце кожны мог апрануць форму ратавальніка.

# Есці хлеб прасцей, чым вырабляць

МАЛАДЗЕЧНА

**У Беларусі намалолі першы мільён збожжа, а колькі завезлі на ААТ «Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў»? Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» пагутарыў з супрацоўнікамі прадпрыемства.**

Камбінат пачаў працаваць у 1963 годзе. Цяпер гэта сучаснае, паўнавартаснае прадпрыемства, якое забяспечвае шмат раёнаў якаснай прадукцыяй.

Тут вырабляюць гатовыя кармы і для сельскагаспадарчых жывёл, муку, разводзяць свіней, таксама складзіруюць збожжа.

– Мы не проста камбінат, а сучасная інтэграцыйная сістэма, у склад якой уваходзіць не толькі вытворчасць некалькіх відаў мукі і камбікорму. Маем свінакомплекс на 20 тысяч свіней, сельскагаспадарчыя ўнітарныя прадпрыемствы «Яхімоўшчына-Агра» і «Хажоваагра-2009», – расказаў **Генадзь Бажко**, дырэктар ААТ «Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў».

У склад камбіната таксама ўваходзяць Красненскі і Валожынскі вытворчыя ўчасткі, на якіх складзіруюць збожжа. Іх далучылі ў 1972 і 1987 гадах адпаведна.

На камбінаце працуюць 430 работнікаў, якія займаюцца прамысловай, сельскагаспадарчай, хлебапрыёмнай дзейнасцю.

### Новаўвядзенні і тэхналогіі

Каб забяспечваць спажыўцоў якаснай прадукцыяй, камбінат абнаўляе тэхнічную і тэхналагічную базу, закупляе новае абсталяванне.

Сёлета на Красненскім вытворчым участку ўстанавілі перасоўную зернесушылку.

Таксама на камбінат набылі інфрачырвоны аналізатар для аператыўнага вызначэння якасці збожжа. На працягу аднойдзвюх хвілін ён вызначае шэсць паказчыкаў якасці. Раней гэта займала каля дзвюх гадзін. Даводзілася рукамі вымешваць размолатае збожжа, каб адмыць клейкавіну. Цяпер гэта робіць тэхніка.

### Для рознай жывёлы – свой рэцэпт

Збожжа дзеляць на харчовае і фуражнае. Першае прызначанае для патрэб людзей. Фуражнае выкарыстоўваюць у вытворчасці камбікорму.

– Для рознай жывёлы – свой рэцэпт прыгатавання камбікорму. Мы робім камбікорм для свіней, кароў, курэй. У залежнасці ад віду, узросту жывёлы падбіраем яго склад, да збожжа дадаём бялковую сыравіну, мінеральна-вітамінныя дабаўкі, – распавяла **Людміла Ражкова**, галоўны эканаміст ААТ «Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў». – Працуем на новым абсталяванні – у 2015 годзе рэканструявалі камбікормавы цэх.

Пераважна камбікорм пастаўляюць у Маладзечанскі раён. Летась больш за 50 працэнтаў ад усёй прадукцыі прыйшлося менавіта на яго. Ёсць пастаўкі ў Мінскі, Мядзельскі, Валожынскі і Вілейскі раёны.

### Як вырабляюць муку

Для вытворчасці мукі выкарыстоўваюць мяккую пшаніцу трэцяга і чацвертага класаў і харчовае жыта. Якасць прадукту, які прыгатавалі з мукі, залежыць ад уласцівасцяў вугляводаў і бялкоў, што ў ёй змяшчаюцца.

ААТ «Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў» робіць муку пшанічную – вышэйшага гатунку, першага і другога. І муку жытнюю хлебапякарную – сеяную, абіўную і шатроўку. Пабочным прадуктам пры вытворчасці мукі з'яўляецца вотруб'е.

– Сыравіну выгружаюць у элеватар – збожжасховішча, сушаць, чысцяць. Яшчэ яе астуджваюць, бо цёплая сыравіна псуецца. Гэта робяць з дапамогай вентылявання. Збожжа даводзяць да кандыцыі, у якой яго можна захоўваць.

Складзіруюць збожжа ў сіласах. Разлічана, што там яно можа захоўвацца год і болей, – распавяла Людміла.

У дзень апрацоўваюць 100 тон мяккай пшаніцы і 80 тон харчовага жыта. Каля дзесяці гадоў таму рэканструявалі млын. Гэта дазволіла абсталяваць мукамольную вытворчасць сучаснай тэхнікай.



Дырэктар ААТ «Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў» Генадзь Бажко.

### Адкуль вязуць збожжа

Фуражнае збожжа на камбінат прывозяць з сельгаспрадпрыемстваў Маладзечанскага, Валожынскага, Вілейскага і Мядзельскага раёнаў. Харчовае паступае таксама з Лагойскага і Крупскага.

Сёлета першае збожжа прывезлі на камбінат 18 ліпеня з Маладзечаншчыны – «Усход-Агра» даставіў харчовую пшаніцу. 26-га прыехала сыравіна з Валожынскага і Мядзельскага раёнаў.

**Таццяна КАСЬЯН. Фота аўтара.**

УНП 600074936

# Як у Ракуцёўшчыне згадвалі Максіма Багдановіча

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адскануйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **tinyurl.com/ycfz3kpm**





Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Загадчыца філіяла «Фальварак Ракуцёўшчына» Настасся Сярболіна (злева) вітае гасцей, сярод якіх – траюрадная пляменніца братоў Луцкевічаў Маргарыта Пярова.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Бібліятэка зладзіла выставу кніг пра Багдановіча.


Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Спявае бард Андрэй Мельнікаў.


Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Сваячка бацькі Багдановіча Вольга Дашкоўская.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

На майстар-класе дзяўчаты плялі вянкі.

МАЛАДЗЕЧНА

## У мінулую нядзелю прайшло традыцыйнае свята паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета-2018».

У вёсцы Ракуцёўшчына ў трыццаць пяты раз сабраліся неабыякавыя да беларускай культуры людзі. Свята штогод ладзіць Літаратурны музей Максіма Багдановіча.

– У 1911 годзе **Максім Багдановіч** пасля доўгага расстання з Радзімай зноў сюды вярнуўся. Вярнуўся па запрашэнні супрацоўнікаў «Нашай Нівы» братоў Луцкевічаў. Максім некалькі дзён пабыў у Вільні, а потым выправіўся ў Ракуцёўшчыну, – распавёў загадчык філіяла «Літаратурны музей Максіма Багдановіча» **Міхаіл Бараноўскі**.

Тут знаходзілася сядзіба дзядзькі Луцкевічаў – **Вацлава Лычкоўскага**, дзе знакаміты беларускі паэт Максім Багдановіч пражыў некалькі летніх месяцаў. Вакол былі сасновыя бары, а чыстае паветра было жыццёва неабходнае хвораму на сухоты Багдановічу. Менавіта пасля візіту на радзіму Багдановіч падрыхтаваў «Вянок» – свой адзіны прыжыццёвы зборнік. Доўгі час пэўнае месца, дзе гасціў паэт, было невядомае. Яно было ўстаноўленае ў 70-х гадах мінулага стагоддзя найперш дзякуючы намаганням гісторыка і краязнаўцы **Генадзя Каханоўскага,** а таксама паэта **Алеся Бачылы**.

– Дзякуючы ім тут з'явіліся памятныя камяні, праз пэўны час з'явіўся філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына», дзе спрабавалі якраз-такі аднавіць вось гэты побыт той пары, калі тут быў Максім, – распавёў Міхаіл Бараноўскі.

Ад 1983 года побач з домам Лычкоўскага, які захаваўся, ладзіцца свята «Ракуцёўскае лета», прысвечанае Багдановічу. Урачыстая частка свята, як і заўжды, пачалася сёлета ля памятных камянёў. Букет валошак да камянёў усклала сваячка бацькі Максіма, **Адама Багдановіча**, **– Вольга Дашкоўская**.

Пасля на галоўнай сцэне выступілі паэты, музыкі, супрацоўнікі і сябры Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Сярод іх – траюрадная пляменніца братоў Луцкевічаў **Маргарыта Пярова**, якая жыве па-за межамі Беларусі, аднак з'яўляецца адданым носьбітам беларускай ідэі. Выступіў і траюрадны пляменнік самога Багдановіча – **Максім Барахович**, які прыехаў з расійскага Ніжняга Ноўгарада. Вершы Максіма Багдановіча, а таксама ўласную творчасць прэзентавалі паэты, сярод якіх – карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» **Аксана Ярашонак-Камінская**.

Вершы Багдановіча – вельмі меладычныя, адзначаюць музыкі. Беларускі бард супрацоўнік Літаратурнага музея Максіма Багдановіча **Андрэй Мельнікаў** выканаў на свяце знакамітую «Пагоню».

На галоўнай сцэне была прэзентаваная творчая праграма, падрыхтаваная жыхарамі Маладзечаншчыны. А ў будынку філіяла «Фальварак Ракуцёўшчына» адбыўся бард-сядзібнік – акустычны канцэрт беларускіх музыкаў, які ўпершыню быў зладжаны летась і мае намер стаць добрай традыцыяй. На сядзібніку выступілі Андрэй Мельнікаў, **Алесь Камоцкі** і іншыя музыкі.

На свяце працавала шмат тэматычных пляцовак. Свае вырабы прэзентавалі майстры і рамеснікі, ладзіліся інтэрактыўныя гульні для маленькіх наведнікаў «Ракуцёўскага лета», дэманстраваліся падрыхтаваныя музеем Багдановіча выставы.

Нягледзячы на неверагодную спёку, на свята прыехала вельмі шмат гасцей з розных куткоў Беларусі і нават замежжа. Такая цікавасць да «Ракуцёўскага лета», творчасці Максіма Багдановіча і беларускай культуры ў цэлым пераконвае: хваляваццa няма нагоды.

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**

## Гістарычную драму пра Янку Купалу пачаў здымаць «Беларусьфільм» 27 ліпеня

Карціна мае працоўную назву «Пакуль будзе неба». Яна адлюстроўвае лёс народнага паэта Беларусі.

Кінапраекту прысвоілі статус «нацыянальнага фільма».

У драме пакажуць асноўныя вехі жыццёвага і творчага шляху Купалы, які супаў з найбольш трагічнымі падзеямі 20 стагоддзя.

– Мяркуючы, што дарослага Купалу сыграюць два акцёры. Купала ў юнацтве – яго, так бы мовіць, «свядомыя» 20 гадоў, і ён у апошнія дні жыцця. У чалавека пасля першай спробы самагубства адбыліся страшныя ўнутраныя змены. І замест радасці за краіну, за сваю творчасць пачаўся перыяд заняпаду. Адзін чалавек нават з добрым пластычным грымам не зможа такое перадаць. Немагчыма прыбраць гарэнне вачэй, – распавяла **Ірына Філіпава**, дырэктар здымачнай групы.

Цяпер падбіраюць гэту пару акцёраў.

Здымкі пачалі ў Смалявічах. Прыродныя замалёўкі – залатыя палі – будуць здымаць у вёсцы Крылова Гаранскага сельсавета, што на Міншчыне. Траецкае прадмесце ператорацць у Вільню, дзе жыў Купала.

Рэжысёр-пастаноўшчык – **Уладзімір Янкоўскі**. На яго рахунку такія карціны, як «Марш-кідок: паляванне на «Паляўнічага», «Грамадзянін Ніхто», «Фамільныя каштоўнасці», «Аддзел «С.С.С.Р». Аўтар сцэнарыя – **Алёна Калюнова**. Плануюць зняць чатыры серыі гульнявога фільма і стварыць кінаверсію.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Музыканты чатырох краін выступяць на фестывалі на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ

Трэці міжнародны фестываль «У Шэметаве ў Шастаковіча» праходзіць ад 3 да 9 чэрвеня. У ім прымуць удзел музыканты з Беларусі, Францыі, Сербіі, Балгарыі.

Фестываль прысвечаны выдатнаму кампазітару і музыканту 20 стагоддзя **Дзмітрыю Шастаковічу**, які мае беларускія карані. Яго прадзед **Пётр Шастаковіч** нарадзіўся ў беларускім мястэчку Шэметава.

Праходзіць канцэртныя праграмы «Шастаковіч і італьянская музыка 18 стагоддзя»:

– у касцёле Святога Андрэя Апостала ў пасёлку Нарач (3 чэрвеня ў 19:30);

– у санаторыі «Спадарожнік» (4 чэрвеня ў 17:00);

– у касцёле Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў маёнтку Шэметава (9 чэрвеня ў 19:30).

Прагучаць творы Шастаковіча, а таксама італьянскіх кампазітараў – Вівальдзі, Пергалезі.

Асобны канцэрт будзе прысвечаны беларускаму кампазітару **Дзмітрыю Смольскаму**, які адбудзецца ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Зубраня» 7 чэрвеня ў 20:00.

Фестываль праводзіцца ад 2016 года па ініцыятыве прадстаўніка беларускай дыяспары ў Францыі, старшыні асацыяцыі «Францыя – Беларусь. Сяброўства» пры падтрымцы пасольства Беларусі ў Францыі, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Мінскага аблвыканкама, Мядзельскага райвыканкама і партнёраў.

Фестываль праходзіць у вёсцы Шэметава.

**Паводле БелТА.**

## Свята возера «Краса майго краю» і водны забег прайшлі ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

Свята возера правялі на беразе Мястра 28 ліпеня. Выступілі артысты раёна і дзіцячыя калектывы.

Народныя майстры паказалі свае работы і правялі майстар-класы.

Дзяцей парадавалі Color fest, водная феерыя, атракцыёны, гульнявыя пляцоўкі.

У гэты дзень адбыліся і рэспубліканскія лёгкаатлетычныя спаборніцтвы «Водны забег». Беглі па вадзе каля 270 удзельнікаў, і дзеці, і дарослыя.

На самай складанай і доўгай дыстанцыі перамог чэмпіён 12 зімовых Паралімпійскіх гульняў **Юры Голуб**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Свята-фэст «Кушлянская талака» праходзіць на Смаргоншчыне

СМАРГОНЬ

Свята праходзіць у аграгарадку Кушляны 11 чэрвеня. Пачатак а 14-й гадзіне.

Гасцей чакаюць канцэрт творчых калектываў Смаргоншчыны, конкурс-прадстаўленне падворкаў, канцэрт **Сяргея Славянскага**, выступленне барда **Алеся Жамойціна**, атракцыёны і гандлёвыя пункты, выстава-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці.

**Паводле shliah.by.**

# Як дакрануцца да свету дзяцінства



Аляксандр Салагуб.

МАЛАДЗЕЧНА

**Фотавыставу Аляксандра Салагуба ладзяць у Палацы культуры. Экспазіцыю можна паглядзець да 10 чэрвеня ў выставачным фае. Уваход на выставу вольны.**



Адзін з фотаздымкаў, прадстаўленых на выставе.

Там можна выказаць і асабістыя ўражанні ў Кнізе водгукаў.

Выстава мае назву «У свеце дзяцінства». Тут прадстаўлены здымкі, зробленыя ў 70-я гады мінулага стагоддзя. «Дзьмухавец», «Скараходы», «Сястрыцы з мамай, татай» – менавіта такія назвы адлюстроўваюць светлыя дні дзяцінства і даюць дакрануцца да мінулага.

**Аляксандр Салагуб** расказаў, што выкарыстоўваў розныя фотаапараты – «Зеніт», «Кодак». Дзяцей, фота якіх можна пабачыць на выставе, здымаў у садках, гуртках, на станцыі юных натуралістаў.

Першую персанальную экспазіцыю Аляксандра Салагуба зладзілі ў 1986 годзе ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Там прадставілі 80 здымкаў на розныя тэмы.

Акрамя некалькіх маладзечанскіх выстаў, ладзілі экспазіцыі ў Чысці, Плябані.

**Аляксандр фатаграфаваў усё – людзей, падзеі, прыроду, птушак…**

– Я памятаю, як падчас жыцця на Данбасе трапіў на выставу нейкага фатографа. Прыродныя замалёўкі спадабаліся. Побач са мной апынуўся невядомы чалавек, сказаў, што здымкі яму не па душы, бо нежывыя. З тых часоў спрабую ў любое фота дадаць жывую істоту, – падзяліўся Аляксандр.

Першы яго здымак апублікавалі ў 1964 годзе ў газеце «Святло камунізму». Ён адлюстроўваў момант, калі затапіла вуліцу Ціхую ў Маладзечне. У хуткім часе Аляксандр стаў у гэтай газеце пазаштатным фотакарэспандэнтам.

– Я памятаю, як мяне самога фатаграфавалі першы раз. Канешне, успамін – адзін момант. Гэта адбылося ў 1939 годзе, на маіх хрэсьбінах. Тады мне было чатыры, – распавёў Аляксандр.

Цяпер Салагуб фатаграфуе толькі для сябе.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Невядомая гісторыя па той бок мяжы

## Як батурынскі касцёл не змог замяніць «Святы камень» у Крамянцы

ВІЛЕЙКА

**Даўно мяне не пакідалі думкі пра жыццё маіх землякоў па другі бок мяжы, якая раздзяляла нас да 17 верасня 1939 года.**

І вось нарэшце сёлета ў мяне дайшлі рукі да даўняй сваёй мары: наведаць колішняе далёкае замежжа, суседнюю Лагойшчыну.

Мне хапіла адной толькі паездкі, каб захапіцца і сканцэнтраваць увагу на «ўсходніках», іх поглядах і менталітэце, які і па сённяшні дзень мае немалое адрозненне ад «заходнікаў». Асабліва сярод старога пакалення.

### А ідэалогію аб'ядналі забыліся

Палітычны гандаль паміж Германіяй і Расіяй у 1918 годзе падзяліў Беларусь на Усходнюю і Заходнюю. А бальшавіцкая ідэалогія раз'яднала народ.

З таго часу і павялося: калі «заходнікі» Вялікдзень святкуюць як праваслаўны альбо як каталіцкі, то «ўсходнікі» адпаведна як рускі і польскі.

«Заходнікі» лічылі сябе заходнімі беларусамі, а «ўсходнікаў» усходнімі. «Усходнікі» ж заходніх суседзяў называлі палякамі, а сябе не інакш як беларусамі.

Падобная ідэалагічная апрацоўка «ўсходнікаў» прыціхла толькі праз два дзесяцігоддзі, праз цэлае пакаленне, пасля 17 верасня 1939 года, калі Заходнюю Беларусь узброеным шляхам далучылі да Усходняй.

А сам народ іх ідэалогія аб'яднаць «забылася». І гэта вельмі добра адчуваецца ў размовах пра мінулае, асабліва ваеннае ліхалецце.

Пра невядомую гісторыю па другі бок мяжы і пойдзе гаворка. Будзе не менш цікавай для чытачоў, бо ўтрымлівае шмат фактаў, якія тычацца Вілейшчыны.

### Вёска вымірае разам з жыхарамі

Крамянец Лагойскага раёна – вёска-загадка. На першы погляд яна цяпер нічым не адрозніваецца ад іншых. Маладзейшыя яе жыхары, хто не паспеў яшчэ моцна спіцца, пакідаюць родны кут. Цяпер насельніцтва Крамянца складае крыху больш за сотню жыхароў, галоўным чынам пенсіянеры. А ў перадваенны час тут жыло недзе да паўтысячы чалавек.

Вёска вымірае разам са сваімі жыхарамі, якія нясуць з сабой у свет іншы звесткі пра няпісаную і загадкавую гісторыю паселішча.

Адно толькі само размяшчэнне вёскі загадкавае. Яна ўтварае трохкутнік з трох галоўных вуліц. З усіх бакоў прылягаюць шнуры вяскоўцаў, а за імі – калгасныя палеткі. Паселішча знаходзіцца на гарыстым ландшафце.

Калі глядзець з вышыні, то Крамянец стаіць быццам бы на няправільным чатырохкутнім востраве. І, хутчэй за ўсё, калісьці, шмат стагоддзяў таму, яно так і было на самой справе. Бо межамі яго з «вялікай» Зямлёй з'яўляюцца чатыры рэчкі, якія акаляюць Крамянец з усіх бакоў, пакінуўшы толькі адзіны вузкі праход на паўднёвым усходзе, паміж рэчкамі Выпрать і Мышкаўкай.

На паўночным усходзе мяжой «вострава» з'яўляецца рэчка Ілія. Паўднёвы Усход размяжоўваюць Мышкаўка і Сліжанка. Паўднёва-заходняя мяжа пралягае акурат па рэчцы Выпрать. Тры апошнія з'яўляюцца прытокамі Іліі.

### Збіралі ўраджаі збожжа, крэменю і мелу

Рэчышчы гэтых чатырох рэчак калісьці бліталіся па непралазных балотах і паплавах. У 1960-70-х гадах, пасля меліярацыі балот, на паўночных, усходніх і паўднёвых межах Крамянецкага ўзвышша праводзілася торфанарыхтоўка. Меліярацыя не закранула толькі заходнюю мяжу, таму што была менш забалочанай, але ўсё адно цяжкапраходнай, бо прылеглае да берагоў рэчак разналессе было таксама забалочанае.

Таму мясцовасць гэта і сапраўды падобная больш да вострава. Палеткі вакол Крамянца давалі не толькі добрыя ўраджаі збожжа, бульбы, лёну. А яшчэ зямля была ўраджайнай на крэмень.

Былі тут і немалыя залежы мелу. Яго здабывалі здаўна. Распрацоўкі былі цалкам ручныя, з невялікімі шахтамі, і вельмі небяспечныя, бо нічым не ўмацоўваліся. Такія шахты часам рушыліся, забіраючы жыцці здабытчыкаў.

Мел-сырэц мясілі як гліну, раскладалі месіва ў формы, высушвалі. Атрымліваўся кілаграмовы паўкруглы мелавы праснак. Гандлявалі ім на кірмашах у Даўгінаве, Ілы, Маладзечне і Ракаве.



«Святы камень» ахоўваецца вяскоўцамі і дзяржавай.

### Як камень уратаваў вяскоўцаў падчас вайны

Самая загадкавая гістарычная таямніца Крамянца – гэта «Святы камень» Бога Сонца – Дажджбога. Як, калі, адкуль камень тут з'явіўся і якую ролю адыгрываў у жыцці крамянчукоў, ніхто па сённяшні дзень адназначнага адказу не мае. Існуюць розныя меркаванні і паданні. Кажуць, продкі-язычнікі для пакланення і ахвяравання Дажджбогу выбралі валун на ўскрайку лесу за вёскай.

Язычніцкая вера ў нас, у параўнанні з Еўропай, існавала вельмі доўгі час. Да крамянчукоў альтэрнатыва іхняму «Святому каменю» дайшла толькі ў 17 стагоддзі. Тады ў суседнім Батурыне пабудавалі ўніяцкую капліцу, якая ўваходзіла ў лукавецкі маёнтак **Брыгіды Шумскай**.

У той час Батурына належала да Вялікага Княства Літоўскага. Крамянчукі пачалі наведваць гэту святыню ў Батурыне і пераходзіць з язычніцтва ва ўніяцтва.

У 1793 годзе – пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай – Батурына адышло да Расійскай імперыі. Імператрыца Кацярына II скасавала ўніяцкую царкву, перараўтвараўшы ўніятаў у праваслаўных. Пад пераўтварэнне патрапіла і батурынская капліца, а разам з ёй і яе прыхаджане, у тым ліку і з Крамянца.

Але ўжо ў канцы 1796 года расійскім імператарам стаў сын Кацярыны Павел. Ён аднавіў уніяцкую царкву і вярнуў ёй ранейшыя парафіі. Тады ж утварылі Мінскае каталіцкае біскупства, у склад якога ўвайшлі каталіцкія парафіі Лагойшчыны. Батурынская капліца таксама апынулася ў яго ным складзе.

У Батурынскім касцёле крамянчукі вянчаліся, хрысцілі дзетак, але свой «Святы камень» не забывалі. Як расказвалі старажылы, падчас Другой сусветнай вайны «Святы камень» выратаваў вяскоўцаў ад смерці.

У нямецкай паліцыі ніхто з крамянчукоў не служыў, гэта была цалкам партызанская вёска, акружаная амаль з усіх бакоў балотамі. Фашысты сюды не заязджалі, толькі некалькі разоў бамбілі з самалётаў. З-за бамбардзіроўкі ў 1943 годзе не адсвяткавалі Вялікдзень.

Вёска вырашыла перанесці страчанае свята на Радаўніцу. Калі ўсе жыхары сабраліся каля «Святога каменя», над Крамянцом узняліся чорныя клубы дыму. Вясковая разведка прынесла звесткі, што фашысты знянацку, з боку Чарвякоў (Сакалоўкі), распачалі блакаду супраць насельніцтва. Не застаўшы вяскоўцаў у вёсцы, карнікі спалілі яе. Дзякуючы «Святому каменю» абышлося без чалавечых ахвяр.

У крамянчукоў па сённяшні дзень зберагласся вера ў моц «Святога каменя», Бога Сонца. Месца наведваюць і сёння, але людзей няшмат. Вёска вымірае, памяць застаецца, але ці надоўга?

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**3 ЖНІЎНЯ**

**1943.** 75 гадоў з пачатку першага этапа «рэйкавай вайны» партызан Беларусі на чыгуначных камунікацыях нямецкіх узброеных сіл. Пачатак вызвалення Беларусі.

**1470.** Заснаваны Жыровіцкі манастыр.

**1615.** Памёр **Крыштаф Мікалай Дарагастайскі**, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, заснавальнік друкарні ў Ашмяне Мураванай.

**4 ЖНІЎНЯ**

**1651.** Войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з князем Янушам Радзівілам узялі Кіеў.

**1838.** 180 гадоў з дня нараджэння **Юзафа Беркмана** (Валожын), жывапісца, удзельніка паўстання 1863-1864 гадоў.

**1917.** Нарадзіўся **Янка Брыль**, народны пісьменнік Беларусі. Памёр 25 ліпеня 2006 года. Яму належаць такія мудрыя словы: «Калі б беларуса прымусіць быць беларусам, які б атрымаўся выдатны беларус!».

**1772.** Прынятая Пецярбургская канвенцыя, паводле якой адбыўся першы тэрытарыяльны падзел Рэчы Паспалітай.

**5 ЖНІЎНЯ**

**1873.** Восень. 145 гадоў з уводу ў эксплуатацыю магістралі Маладзечна-Мінск-Бабруйск-Гомель Лібава-Роменскай чыгункі.

**6 ЖНІЎНЯ**

**80 гадоў** з дня нараджэння (1938) **Ігара Лучанка**, беларускага кампазітара, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР.

**1517. Францыск Скарына** ў Празе выдаў першую кніжку Біблії – першую беларускую і ўсходне-славянскую друкаваную кнігу.

**8 ЖНІЎНЯ.**

**1919.** Пачалася акупацыя Мінска польскімі войскамі. Доўжылася да 11 ліпеня 1920 года.

**9 ЖНІЎНЯ**

**60 гадоў** з часу заснавання (1958) Гродзенскага медыцынскага інстытута (ад 2001 г. – Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт).

**1910.** Нарадзілася **Ларыса Геніюш** (дзяв. Міклашэвіч), паэтэса, вязень ГУЛАГу.

**1976.** Памёр **Іван Мележ**, беларускі пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1972). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972, за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»), Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1976) за кнігу крытычных нарысаў, артыкулаў «Жыццёвыя клопаты» (пасмяротна), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962, за раман »Людзі на балоце»). Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Нарадзіўся ў 1921 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Знайшлі бронзавую шпільку для паненак і піўны куфаль для мужчын

## Чым парадавала археолагаў экспедыцыя ў Ілы

ВІЛЕЙКА

**Неяк ільянскі майстар-гутнік выпадкова ўкінуў у печ, дзе варылася шкло, сваю гліняную люльку. А знайшлі яе праз тры стагоддзі археолагі, што ўжо трэці год праводзяць раскопкі на месцы былога шкларобнага прадпрыемства ў Ілы.**

### Побач з гутай быў склад

Люлька з белай гліны, глазураваная карычневым пакрыццём, – не адзіная сёлетняя знаходка археолагаў. Тры гады запар гэта зямля цешыць навукоўцаў артэфактамі 18 стагоддзя.

Здымаючы слой за слоем, удзельнікі экспедыцыі ўбачылі некалькі ям па кутах прадпрыемства, зробленых падчас будаўніцтва гуты:

– Хутчэй за ўсё, у ямы ставілі слупы, на якіх трымаўся дах, – мяркуе **Паліна Курловіч-Бяляўская**, кандыдат гістарычных навук, выкладчыца кафедры БДУ, нязменны кіраўнік ільянскіх экспедыцый.

У адной з ям навукоўцы знайшлі тры невялікія кавалкі тканіны – воўну цёмна-сіняга колеру. Дзякуючы слою вільгаці 300-гадовая знаходка нядрэнна захавалася.

Капаючы сёлета, навукоўцы выйшлі на край прадпрыемства і знайшлі яшчэ адзін будынак – верагодна, склад прадпрыемства.

Шкло, манеты, кераміку на месцы шклагуты навукоўцы знаходзяць штогод. Былі і сёлета асабліва яскравыя знаходкі. Адна з іх – гліняная люлюка, што знайшлі ў печы. Яшчэ – сіне-зялёныя рэшткі шклянога піўнога куфля. Ці рабілі такія на ільянскім прадпрыемстве, невядома. Па словах Паліны, ён не падобны да астатніх вырабаў. Аднак навукоўцы не ведаюць усяго асартыменту гуты.

Аб прысутнасці жанчыны на прадпрыемстве сведчаць тры добра захаваныя швейныя іголкі і бронзавая або медная шпілька з маленькім шарыкам на канцы.

Шпілька, ледзь бачная на далоні, сведчыць пра высокі ўзровень местачковай культуры ў Ілы. Такімі прыстасаваннямі жанчыны заколвалі галаўны ўбор. Па словах Паліны, ёсць шмат старых жаночых партрэтаў, дзе заўважаюць такія шпількі. І звычайныя сялянкі імі не карысталіся.

І ўсё ж навукоўцы лічаць, што жанчыны не працавалі на шкларобным прадпрыемстве: вельмі цяжкая гэта была вытворчасць. Магчыма, прыходзілі да сваіх родных.



Паліна Курловіч-Бяляўская дэманструе рэшткі піўнога куфля.

### Чым працаваў гутнік

Традыцыйна знаходзяць інструменты, якімі карысталіся старажытныя майстры. Сёлета трапілася шаля ад вагаў, на якіх, верагодна, важылі рэчывы, што давалі ў шкламасу. Напрыклад, каб шкло было празрыстым, у яго давалі мел. Знойдзены сёлета ножык дапамагаў гутніку зразаць з новых вырабаў непатрэбныя часткі.

Знайшлі шмат фрагментаў тыповага посуду, што выраблялі на гуце – горлачкі ад бутэлек, прыгожыя ножкі ад фужэраў. Выраблялі тут і штофікі – аптэкарскі посуд, названы так з-за меры аб'ёму.

– Штофікі былі вельмі выгадным посудам, – кажа Паліна. – Бутэлечкі шчыльна адна да адной састаўлялі ў воз. Паколькі яны былі прамавугольнымі, то ўлазіла іх шмат. А падатак тады плацілі з аднаго воза.

### І навошта на гуце быў рыбак?

А вось металічная запчастка, якая тырчэла ля печкі, – зусім не старажытная. Так у 1982 годзе межы свайго раскопу пазначыў гісторык і краязнаўца **Міхась Чарняўскі**.

З дакументаў, якія Паліна вывучала, працуючы над дысертацыяй па гісторыі шкла, вядома, што на прадпрыемстве ў розныя часы працавала каля 25 чалавек. Сярод звычайных на такім прадпрыемстве майстроў-гутнікаў і падмайстраў былі дзве цікавыя спецыяльнасці – млынар і рыбак. Навошта яны былі на шкларобным прадпрыемстве – яшчэ адна загадка для археолагаў. Але рыбалоўныя кручкі тут сёлета знайшлі.

### Хочаш у гутнікі? Здавай іспыт

Першыя майстры-гутнікі прыязджалі з-за мяжы, часцей з Цэнтральнай Еўропы. Яны выбіралі больш здольных сярод мясцовых жыхароў і вучылі іх «шкляной» справе.

Па словах Паліны, дакументаў пра тое, як працавала гута ў 18 стагоддзі, амаль няма. Вядома толькі, што яе заснавалі ў сярэдзіне стагоддзя. Аднак калі Ілью забіралі ў **Агінскага**, у пераліку аб'ектаў гута не пазначаная. Відаць, на гэты час яна прыпыніла сваю дзейнасць з-за пажару.

Падрабязныя справаздачы аб працы ільянскага прадпрыемства пачынаюцца ад 1800 года, калі тэрыторыя ўжо была ў складзе Расіі. Новы ўладальнік Ілы **Салтыкоў** здаў прадпрыемства ў арэнду. І арандатары гуты штогод дасылалі справаздачы ў Міністэрства мануфактур у Санкт-Пецярбург. У дакуменце за 1800 год згадваецца, што гуту заснавалі даўно, але яна доўга не працавала.

### Ці з'явіцца музей у Ілы?

Сёлета да канца раскапалі вялікую печ, дзе варылі шкло. Ля печы – невялікае ўзвышэнне. Тут, на думку навукоўцаў, старажытны майстар фармаваў выраб з вадкага шкла.

– Адразу думалі разбіраць печ, – дзеліцца Паліна. – Але яна так добра захавалася. Таму ўзнікла фантастычная ідэя пра музеефікацыю. А што калі тут, у Ілы, зрабіць музей гісторыі шкла? Саму печ закансерваваць, тыя элементы, якіх не хапае, дакласці з сучасных матэрыялаў, пакінуць археалагічную частку, каб наведнікі з памостаў маглі глядзець на раскопкі. Побач зрабіць невялікі павільён, дзе размясцілі б знаходкі і дакументы.

Ілья – адзіная ў Беларусі мясціна, дзе традыцыі шкларобства, закладзеныя ў 18 стагоддзі, працягваліся да пачатку дваццаць першага. Чаму б не зрабіць тут музей?

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Ключ ад скрыні.



Куфаль.



Люлька.



Нацельны крыжык.



Чашачка вагаў.



Шкляны шарык.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Медытаваць, слухаць нямецкую музыку і пячы хлеб на вогнішчы

## Як гаспадар дома ў вёсцы Навасады збірае дзясяткі людзей на тэматычныя вечары

ВІЛЕЙКА

**«Прывітанне, дарагі сябра! Не важна, 5 ці 50 табе гадоў, жывеш ты ў Вілейскім раёне ці апынуўся тут выпадкова. Але калі ты тут, то я рады вітаць цябе».**

Такімі словамі звяртаецца да гасцей сваёй старонкі **Алег Куралесаў**, гаспадар дома ў Навасадах. Менавіта гэты дом некалькі разоў на месяц становіцца месцам адпачынку і развіцця для тых, хто не лянуецца даехаць да гэтай вёскі.

Карэспандэнтка «РГ» не змагла застацца ў баку і наведалася на адно з ліпеньскіх мерапрыемстваў у Навасадах – дзень нямецкай культуры. У пятніцу, 20 ліпеня, сям'я з Брэмена паказвала, як пячы традыцыйныя нямецкія вафлі, адказвала на пытанні аб нямецкай адукацыі і ладзіла медытацыю на беразе возера. Але аб усім па парадку.

### Дабрацца да Навасадаў самому – той яшчэ квэст

Вёска Навасады месціцца ў Нароцкім сельсавеце Вілейскага раёна. Грамадскі транспарт датуль не даязджае. Таму самы зручны варыянт – скантактавацца з гаспадаром дома Алегам. Ён ахвотна падкажа, хто з гасцей едзе ў Навасады на машыне і зможа падвезці вас на месца.

Калі вырашылі дабрацца самастойна, трэба даехаць ад Вілейкі да Папоўцаў. Найчасцей маршрутныя аўтобусы не заязджаюць у Папоўцы, а высаджваюць пасажыраў ля іх. У такім выпадку трэба кіравацца ў напрамку дарожнага знака, якія паказвае на Іжу і Ляды. Два кіламетры пешкі па палях – і вы на месцы.

Гаспадар дома ля возера Алег Куралесаў жыве ў Навасадах ужо год. Працуе арганізатарам дзіцячых святаў, якія ладзіць па ўсім рэгіёне.

На пачатку ліпеня тут паказвалі фільм на экалагічную тэматыку. Пасля гледачы пілі гарабату і абмяркоўвалі экалагічныя праблемы.

– Я ў Навасадах трэці раз, – кажа **Дар'я Хоміч**, якая прыязджае з Нарочы. – Мне падабаецца тут творчая атмасфера, прырода.

– Мы пазнаёміліся з Алегам, калі ён прыехаў да нас у Нарочу распавесці пра свае мерапрыемствы, – дадае **Надзея Лапінская**. – З таго часу не прапускаем магчымасці правесці тут час.

Нямецкія госці – **Марко** разам з сынамі **Оскарам** і **Зімонам**, – вучылі беларусаў рабіць свае нацыянальныя стравы. З сабой яны прыхапілі вафельніцу, якой больш за 60 гадоў. Традыцыйныя тонкія вафлі ў іх рэгіёне пякуць 1 студзеня. Але і ў сярэдзіне ліпеня беларускія дзеці з'елі ўсе да адной.

У Германіі Марко займаецца дызайнам і вырабам драўлянай мэблі. Таму для наступнага пункта праграмы – дыхальных практыкаванняў і медытацыі, – ён проста на месцы з дошак сабраў маленькія зэдлікі.

Ад нямецкіх гасцей беларусы даведаліся пра сістэму адукацыі Мантасоры, па якой навучаюцца Оскар і Зімон у Германіі. Па ёй вучні самі выбіраюць прадметы і не маюць дамашніх заданняў, але ў канцы навучання мусяць здаць абавязковыя экзамены.

На сустрэчы госці абмяркавалі нямецкую музыку, цытаты нямецкіх філосафаў.

Завяршыўся вечар пасядзелкамі ля вогнішча з прыгатаваннем нямецкай стравы пад назвай Stock Brot.

– Мы загадзя замясілі дражджавое цеста, – распавёў пра страву Марко. – Цяпер яго трэба раскачаць і тонкім слоем наматаць на галінку, а пасля хвілін 10-15 смажыць над вогнішчам.

Тым, хто засядзеўся ў Навасадах і не патрапіў на апошні транспарт, Алег прапаноўвае застацца нанач.

### «Для мяне важна, каб кожная рэч дыхала ўтульнасцю»

Дом, у якім праходзяць мерапрыемствы, складана назваць звычайным. І сам дом, і двор знаходзяцца ў стадыі рамонту.



Пасля таго, як Алег Куралесаў набыў дом у Навасадах, жыццё вяскоўцаў стала больш цікавым.



Удзельніцам спадабалася беларуска-германскае мерапрыемства.

Зямля, на якой цяпер стаіць дом Алега, некалі належала да маёнтка Дзевятні, дзе жыў пісьменнік Ігнат Ходзька.

Год таму, калі Алег перабраўся ў Навасады, на ўчастку стаяў толькі зруб, пабудаваны ў 50-х гадах. Але гаспадар прызнаецца, што шукаў не дом, а атмасферу.

– Для мяне важна, каб месца было з душой і сэрцам. А на ім я ўжо магу што заўгодна пабудаваць, – кажа Алег.

За год гаспадар разбудаваў зруб да дома, у якім цяпер ёсць газ, туалет і ванна з гарачай вадой. Аднавіў гаспадарчую прыбудову і склеп.

– Я раблю ўсё самастойна па розных прычынах, – кажа мужчына. – Па-першае, у працэсе я даведваюся шмат новага. Па-другое, калі ўсё робіш сам, то кожная рэч дыхае ўтульнасцю. А калі праз нейкі час спатрэбіцца рамонт, я буду разумець усё знутры, мне не трэба будзе дапамога.

Многія рэчы, якія цяпер упрыгожваюць дом Алега, ён знайшоў на сметніцы ці ўзяў у тых, каму ўжо непатрэбныя. Ва ўмелых руках яны ператварыліся ў непаўторныя прадметы інтэр'еру. Свяцільнікі, што вісяць над сталом, зроблены са старых шкляных графінаў. А цэглу, якой выкладзеныя сцены, гаспадару выпісалі з суседняга калгаса, бо там яна пылілася без справы.

– Гэту жырандолю я зрабіў пасля прагулкі па лесе, – Алег паказвае на галінкі дрэва, прымацаваныя да столі, з якіх звісаюць лямпачкі.

Рэчы з крамы гаспадар плануе замяніць на зробленыя сваімі рукамі.

Вокны мужчына рабіў самастойна, хаця гэта быў першы досвед працы са шклом. Алег прызнаецца, што без памылак і недарэчнасцяў не абыходзіцца.

– Мне далёка да прафесійнага майстра, – заўважае ён. – Таму дахоўку, якую я цяпер кладу над верандай, трэба будзе перакладваць. Не пад тым вуглом паклаў, працякае. Але мне гэта ў радасць. Яшчэ я ведаю, што сцены ў доме, якія я сам клаў, не ідэальна роўныя. Але не ўспрымаю гэта як памылку.

У гаспадара яшчэ шмат планаў. І па добраўпарадкаванні дома, і па тым, як напоўніць яго цёплай атмасферай і прыемнымі людзьмі. І калі ў апошнім вы гатовыя яму дапамагчы, то цяпер якраз найлепшы для гэтага час.

Правесці жнівеньскі вечар з новымі знаёмымі за цікавымі размовамі ў доме ля возера – гэта лягчэй, чым можа падацца.

Далучыцца да мерапрыемстваў у Навасадах лёгка: дастаткова знайсці ў сацсетках групу "Дом ля возера. Навасады", пабачыць анонсы мерапрыемстваў і звязацца з гаспадаром, каб дамовіцца, як даехаць на месца.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**

# Як бюджэтна правесці летнія выхадныя ў Санкт-Пецярбургу

**Калі летам паехаць на мора не атрымоўваецца або ваш адпачынак увогуле не выпадае на лета, заўсёды ёсць магчымасць наведаць краіны блізкага замежжа. Ёсць нядрэнны варыянт – тур выхадного дня ў Санкт-Пецярбург.**


Не ўтрымалася, каб не сфатаграфавацца на фоне Ісакіеўскага сабора.

### Дарога

Даехаць да Піцера мы вырашылі на аўтамабілі. Сама я ўжо была ў Санкт-Пецярбургу, ездзіла на аўтобусе па экскурсійнай праграме. На мой погляд, аўтамабіль – гэта найлепшы спосаб вандроўкі ў кампаніі, бо вы самі plануеце свой маршрут і час. Тым больш, і танней атрымоўваецца, чым на цягніку, напрыклад. Грошы аддасце толькі за паліва. Дарога ў абодва бакі заняла па 12 гадзін з-за рамонту трасы Пскоў-Санкт-Пецярбург. Увогуле за паездку мы наездзілі каля 1600 кіламетраў.

### Жыллё

У Санкт-Пецярбургу можна знайсці бюджэтнае жыллё: гасцініцы, хостэлы, кватэры. Але мы вырашылі спыніцца ў матэлі недалёка ад горада. Так было зручней планаваць маршрут. За трохмесны нумар аддалі 1500 расійскіх рублёў, гэта значыць, 15 беларускіх рублёў з чалавека.

### Ежа

Ежу ў дарогу лепш узяць з дому. На запраўках я дакупляла толькі ваду. Знайсці кафэ на любы густ і паесці ў горадзе можна на кожным кроку, але ўсё залежыць ад вашага бюджэту. За паўнавартасны абед у адной з кавярняў у цэнтры Піцера я аддала 480 расійскіх рублёў, што адпавядае 15 беларускім.

### Пецяргоф

Пачынаць вандроўку мы вырашылі з Пецяргофа. Ільготны ўваходны білет у парк для грамадзян СНД абышоўся ў 450 расійскіх рублёў (14 беларускіх). Фантаны працуюць ад 11 гадзін, мы прыехалі якраз да іх адкрыцця.

Людзей было, як заўсёды, шмат. Пецяргоф здзіўляе колькасцю фантанаў, утульных алей і вавёркамі, якія скачуць на рукі. Таксама тут можна палюбавацца прыгожымі краявідамі ля Фінскага заліва.

### Экскурсіі і горад

Паўночная сталіца Расіі сустрэла дажджом. Надвор'е ў Піцеры не адрознівалася ад таго, якое ўсталявалася ў Беларусі. Каб не губляць час, мы адразу ўзялі водную экскурсію па рэках і каналах на крытым цеплаходзе. Кошт дарослага білета – 600 расійскіх рублёў, ці 19 беларускіх.

Я лічу, што кожны, хто будзе ў Піцеры, павінны набыць білет менавіта на такую экскурсію. Нездарма ж горад называюць рускай Венецыяй! Нягледзячы на тое, што бачыла ўсё ў другі раз, атрымала ўражанні як упершыню.

Асабліва дух захоплівае, калі трапіш на Няву. За гадзіну мы ўбачылі шмат знакавых мясцін Санкт-Пецярбурга: Марыінскі тэатр, дамы знакамітых людзей, храмы.

Нам вельмі пашанцавала, бо, калі скончылася экскурсія, з'явілася сонца. Мы пайшлі гуляць па горадзе, пабачылі Ісакіеўскі і Казанскі саборы, «Храм на Крыві».

Уваход у Казанскі сабор бясплатны, што нельга сказаць пра два астатнія. На базе Ісакіеўскага ёсць аглядная пляцоўка. Цяпер ён працуе ў якасці музея і не з'яўляецца дзеючым саборам.

Улюбёным месцам адпачынку мясцовых жыхароў і турыстаў з'яўляецца Дварцовая плошча. Тут сутыкнулася мінулае і сучаснасць. На фоне Зімняга палаца спяваюць вулічныя музыканты, збіраецца і адпачывае моладзь.

У Санкт-Пецярбургу жыве крыху больш за пяць мільёнаў чалавек, але горад не выглядае мітуслівым, як, напрыклад, Масква. Асабліва тут, на Дварцовай плошчы, час нібы спыняецца.

У некаторых месцах засталіся плакаты, прысвечаныя чэмпіянату свету па футболе, і працуюць павільёны продажу сувенірнай прадукцыі. Мы не засталіся на развядзенне мастоў, але я раю ўсім пабачыць гэта чароўнае відовішча.

Паездка абышлася мне прыкладна ў 2000-2100 расійскіх рублёў. Гэта недзе 63-70 беларускіх. Канешне, адных выхадных для Санкт-Пецярбурга мала, але, каб пазнаёміцца з горадам і па-сапраўднаму палюбіць яго, часу хопіць.

**Марыя КРУПСКАЯ.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**


На Фінскім заліве.


На Дварцовай плошчы выступаюць вулічныя музыканты.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Род грыбоў, пашыраны на Беларусі.
4. Жук, з-за якога засыхаюць сасновыя лясы ў рэгіёне.
6. Вёска ў Вілейскім раёне, дзе сёлета памыліліся археолагі.
7. Вымерлы лятаючы яшчар.
10. Форма сучаснага мастацтва, у аснове якога знаходзіцца дзеянне.
13. Сушаныя на сонцы або ў цені ягады вінаграду.
14. Тое, што і дурніцы.
15. Карціна з краявідамі.
18. Імя паэта Гурыновіча, ураджэнца рэгіёна.
19. Свята ў яго гонар штогод праводзяць на Мядзельшчыне летам.
20. Сумная паэма Янкі Купалы пра дзяўчыну з гонарам.
24. Падробка пад мастацтва.
25. Жывёла сямейства куніцавых. Жыве каля вадаёмаў, на балотах у лесе.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Вёска на Маладзечаншчыне, у якой працавала кардонная фабрыка пана Мечыслава Багдановіча.
3. Адзін са станаў вады.
5. П’еса Аляксея Дударава, якая уваходзіць у рэпертуар Мінскага абласнога драмтэатра ў Маладзечне.
8. Прозвішча мастачкі, якая ў 1960-70-х гадах жыла ў Маладзечне і выкладала ў студыі выяўленчага мастацтва.
9. Гаспадарчая пабудова для сушкі і захоўвання снапоў.
11. Дрэва на гербе Астраўца.
12. Хімічны элемент, які спецыялісты штогод знаходзяць у ягадах, сабраных у рэгіёне.
15. Вёска на Валожыншчыне, радзіма паэта Віктара Шніпа.
16. У народных павер’ях — злы або добры дух, які жыве ў кожным доме.
17. Прозвішча народнага артыста, дырыжора, ураджэнца Вілейшчыны.
21. Вялікі князь, што ўцёк з Крэўскага замка ў жаночай сукенцы.
22. Агародніна, кашы і падобнае, што дадаюць да рыбы і мяса.
23. Мястэчка на Валожыншчыне, вядомае як цэнтр ганчарства.

## Адказы на крыжаванку з №30

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Прашча 4. Цешча. 5. Рыга 7. Юшка. 8. Смаргонь. 11. Шапавал. 13. Вуж. 15. Рагойша 16. Вялес. 17. Маркава.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Дамба. 3. Дабранач. 6. Рамантызм. 9. Пурпур. 10. Шаленства. 12. Рарытэт. 13. Раяль.

## ● ГАРАСКОП 3-9 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Вам вельмі хочацца матэрыяльных каштоўнасцяў, багацця, хоць натура вы больш эмацыйная, чым меркантыльная. Тым не менш шанец атрымаць жаданае ў вас ёсць. Цяпер перад вамі могуць адкрыцца перспектывы. Галоўнае, вам не трэба нічога рабіць, проста не супраціўляйцеся падзеям, што адбываюцца з вамі.



**ЦЯЛЕЦ.** Памятаеце, што ў любога дзеяння, ёсць, як мінімум, два бакі. Эмоцыі могуць прыносіць як радасць, так і засмучэнні. Трымайцеся светлага боку вашых пачуццяў, і тады ўсё будзе добра. Не дазваляйце сабе хвалявацца або перажываць з якой-небудзь нагоды, інакш негатыўныя эмоцыі могуць захліснуць вас.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы апынецеся ў эпіцэнтры ўнутранай барацьбы: з аднаго боку вам неабходна абмяжоўваць сябе дзеля духоўнага развіцця, дзеля іншых людзей; з другога – матэрыяльныя каштоўнасці і мірскія радасці будуць вас вабіць з падвоенай сілай. У любым выпадку выбар за вамі, і якім бы вы яго не зрабілі, вы ўсё роўна атрымаеце ад гэтага карысць у тым ці іншым выглядзе.



**РАК.** Для маладых і адзінокіх гэта той час, калі вы можаце завесці новае знаёмства, і, магчыма, яно будзе мець перспектыву. Важнай умовай з’яўляецца тое, што вы павінны цалкам даверыцца свайму лёсу і не спрабаваць яму супраціўляцца. І вось пабачыце – усё выйдзе найлепшым чынам.



**ЛЕЎ.** Важная для вас умова – не нясіце праблемы з працы дадому.



**ДЗЕВА.** Практычна ўсё, што плануеце, – збудзецца. Але для гэтага спатрэбіцца рашучасць, актыўнасць, уменне хутка рэагаваць на сітуацыю. Задумайцеся аб важным набыцці.



**ШАЛІ.** Не закрывайцеся і не адмахвайцеся ад будучых змяненняў. Яны пойдуць вам на карысць. Трымайце вушкі на макушцы, каб не заблытацца ў патоку інфармацыі ці не ўгразнуць у чужых інтрыгах, паколькі далёкія ад такога роду дзейнасці.



**СКАРПІЁН.** Работу прыйдзецца сумяшчаць з абуладкаваннем быту. Можа паўстаць пытанне пераезду, рамонту, буйных пакупак у дом. Вам свецяць не толькі ўдачныя пачынанні, але і новых сяброў знойдзеце.



**СТРАЛЕЦ.** Надышоў той час, калі вы самі творыце сваё шчасце. Адчуйце перамены ў асабістым жыцці, праяўляйце ініцыятыву.



**КАЗЯРОГ.** Ваш партнёр будзе служыць вам нязменнай і вернай апорай, аднак не перакладайце на яго увесь груз штодзённых расходаў і спраў. І памятайце, захаваць цудоўныя адносіны пры вельмі хісткіх адносінах зможа той, у каго хопіць смеласці весці сябе так, як ні ў чым не бывала.



**ВАДАЛЕЙ.** Стаўце мэту і няспешна і цярпліва ідзіце ёй насустрач. А тое, што вы яе даб’яцеся – сумненняў не выклікае. Вам цяпер не хапае дзелавой актыўнасці, вы не думаеце, што ўпусцілі тую ці іншую магчымасць, але пазней пачняце шкадаваць, што не былі рашучымі.



**РЫБЫ.** Будзьце свабодныя і незалежныя і ў сваіх планах, і ў думках, і ў дзеяннях. Спрабуйце сябе ў тым, чым ніколі не займаліся. Стаўце перад сабой маштабныя мэты, павышайце планку чаканняў і не лянуйцеся: вам многае будзе дадзена зоркамі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | | 4 | | 8 | | | |
| 3 | | | 1 | | | 4 | | |
| | | | 6 | 3 | 2 | | | 7 |
| 6 | | 8 | | | 9 | | | |
| | | 9 | 5 | 1 | | 8 | | |
| | | | 7 | | | | 2 | |
| 5 | | | 3 | 2 | 1 | | | |
| | | 6 | | 5 | | | 3 | 4 |
| 1 | | | 9 | | | | | 5 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## • НАДВОР'Е

**4 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 | | +20 | | +20 | | +18 | |
| | +28 | | +27 | | +26 | | +24 | |
| | 744 | → 3 | 741 | ↘ 3 | 738 | ↘ 7 | 738 | → 8 |
| Вільня | +19 | | +18 | | +19 | | +17 | |
| | +25 | | +25 | | +22 | | +20 | |
| | 749 | → 3 | 747 | → 4 | 745 | → 4 | 744 | → 8 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 5.28
Захад 21.09
Даўжыня дня 15.41

Усход –
Захад 13:43
Квадра 4




## • ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +7,6°С у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +32,9°С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,4 мм у 1977 годзе
Паводле meteoinfo.by

## • ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якая ваша любімая дзіцячая кніга?

**Аляксей Лук'янчык, SMM-менеджар:**
– Усе апавяданні Эдуарда Успенскага пра Прастаквашына. Сэрцу не загадаеш.



**Вікторыя Грамыка, студэнтка:**
– Для мяне – «Страта» Генрыха Далідовіча. Твор спадабаўся, таму што ён вельмі эмацыйны. Пра сапраўднае, але, на жаль, кароткае сяброўства двух хлопчыкаў.



**Ірына Шчарбіцкая, пенсіянерка:**
– У вёсцы кніжак не было. Чыталі мала. Першай кнігай, калі не памыляюся, была «Чацвертая вышыня» Алены Ільіной. Яе памятаю, бо чытаць было цікава.



**Дар'я Глінская, студэнтка:**
– Аповесць Эдуарда Успенскага «Пра дзяўчынку Веру і малпачку Анфісу». Як можа не спадабацца Анфіса? Тым больш, у дзяцінстве марыла таксама завесці малпу, якая любіла б хуліганіць на люстры.



**Вольга Блоцкая, студэнтка:**
– «Каралеўства крывых люстэркаў» Віталя Губарава. Гэта кніга як нельга лепш даказвае: важна бачыць сябе збоку. Чалавек сляпы, калі нешта тычыцца яго самога. Менавіта таму нас так хвалюе негатыўнае ў іншых людзях – мы знаходзім у гэтым адлюстраванне сябе.



**Максім Цюцянькоў, студэнт:**
– Я адразу ўзгадваю кнігу казак у зялёнай вокладцы. Любіў яе за тое, што яна дапамагала мне заснуць, кожны вечар маці чытала казкі перад сном. Нават тэксты некаторых узгадаю і цяпер.



**Кацярына Ржавуцкая, студэнтка:**
– Адной з любімых кніг лічу «Маленькую прынцэсу» Фрэнсіс Бёрнет. Яна вучыць верыць у чараўніцтва, нават калі свет вакол змрочны, а ты – самотны. І заставацца прынцэсай – не вонкава, у пышнай сукенцы і жэмчугам у кароне, а ўнутры – з добрым сэрцам і невычэрпным уяўленнем.



**Падрыхтавала Марыя КРУПСКАЯ.**

## Чытайце праз тыдзень

- **Маладзечанцы Соф'і Валасняковай амаль 82 гады. У 1950-1960-я яе, спартсменку-валейбалістку, ведалі і ў горадзе, і ў рэспубліцы. Пра сваю спартыўную маладосць, пра калег і спорт жанчына распавяла карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».**

## Бяжыце ад спёкі з мядзельскімі спартсменамі і «Рэгіянальнай газетай»!



## Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

# Пракуроры запрашаюць паўдзельнічаць у конкурсе «Разам супраць карупцыі!»

МАЛАДЗЕЧНА

**Генеральная пракуратура запрашае творчую моладзь паўдзельнічаць у міжнародным моладзевым конкурсе сацыяльнай антыкарупцыйнай рэкламы.**

Конкурс зладзяць сярод жыхароў Беларусі, Арменіі, Казахстана, Кыргызстана, Таджыкістана і Расіі.

Удзельнікамі могуць быць людзі ад 14 да 35 гадоў. Трэба падрыхтаваць тэматычную сацыяльную рэкламу ў намінацыях «Лепшы плакат» і «Лепшы відэаролік». Работы павінны адлюстроўваць сучасныя дзяржаўныя метады барацьбы з карупцыяй.

Першы этап конкурсу доўжыцца ад 2 ліпеня да 12 лістапада ў вышэйназваных краінах. Камісія ацэніць работы і ўзнагародзіць пераможцаў. Яны пройдуць у другі этап.

У фінале – ад 13 да 23 лістапада – журы міжнароднага конкурсу ў кожнай з намінацый абярэ пераможцаў.

Узнагароджанне плануюць зладзіць у Маскве ў снежні.

Работы прымаюць на афіцыйным сайце конкурсу www.anticorruption.life. Там размясцілі і правілы.

Адказваюць за ўзаемадзеянне пры правядзенні міжнароднага конкурсу работнікі Генеральнай пракуратуры Беларусі: намеснік начальніка аддзела інфармацыі **Дзмітры Брылёў** (тэл. (8-017) 328-55-86, e-mail: info@prokuratura.gov.by) і намеснік начальніка ўпраўлення па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю **Андрэй Пучкоўскі** (тэл. (8-017) 203-51-33, e-mail: info@prokuratura.gov.by).

**Аляксандр ВАСЮТА, выканальнік абавязкаў пракурора Маладзечанскага раёна, саветнік юстыцыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№31 (1214) 3.08.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 500. Падпісана ў друк у 9.00 2.08.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.